# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА



ЦАРКОЎНА-НАРОДНЫ ДВУТЫДНЁВІК

ОРГАН ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСОЎ

*Рэдакцыя часопісі «Беларуская Зарніца» зварочваецца да ўсяго паважанага грамадзянства з просьбай аб дапамозе нам у справе пашырэньня «Беларускае Зарніцы» сярод Беларускага, а перадусім праваслаўнага, грамадзянства.*

*„Беларуская Зарніца“ ўсебакова будзе высьвятляць царкоўнае, соцыянальнае, культурнае, гаспадарчае і палітычнае жыцьцё Беларускага народу з пункту гледжаньня рэлігіі.*

*«Беларуская Зарніца» цьвёрда стаіць на здаровым грунце Саборнасьці ў Царкве і неабходнасьці скліканьня Сабору Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.*

Год выданьня II. Цана нумару 40 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА

Царкоўна-Народны двутыднёвік
Орган Праваслаўных Беларусоў.

| 1-15 студзеня 1929 году | Падпісная цана: за 1 месяц — 80 гр.; за 3 месяцы — 2 зл. 40 гр.; $^1/_2$ г.—4,50, 1 год—8 зл. | № 1 (9) |
| --- | --- | --- |

Адрэс рэдакцыі: Вільня, вул. Летняя № 7.

## Хрыстос і дзеці.

Ерусалімскія дзеці гулялі ў Кедранскага патоку. Раньняе сонейка толькі што выкацілася з-за Елеонскай гары і пазалачала сваімі яснымі, але яшчэ ня пякучымі праменьнямі дах Саламонава Храма і зубчастыя сьцены сьвятога горада.

У глыбіні Іесафатавай даліны пасьліся козы і оўцы, зьбіраючы бедную расьліннасьць паміж магільных плытаў.

Раптам на дарожцы, якая вяла ў Віфанію, паказалася некалькі падарожнікаў. Яны, відаць, ішлі ў Ерусалім. Па запыленай адзежы іх відаць было, што ідуць яны здалёк.

Бліжэй і бліжэй,—і паміж іх вырысоўваецца Ен. Гуляючыя дзеці зараз-жа пазналі Яго. Яны ўжо ня раз бачылі Яго. Ды й хто-б не пазнаў Яго па бажэсьценнаму, кроткаму вобліку!

І запраўды гэта быў Ен! Яго абкружалі вучні, з якіх некаторыя зрывалі тут-жа каля дарожкі пасьпеўшыя каласы пшаніцы, пераціралі іх у далонях і заспакоівалі свой голад.

Дзеці даўно ўжо палюбілі Яго. Ен з такою ласкаваю любоўю заўсёды глядзеў на іх.

Калі Ен і вучні мінавалі нізкія акопы Гефсіманскага саду, перайшлі праз Кедран, дзеці, пакінуўшы свае гульні, здалёк пайшлі за імі.

Яны вайшлі ў сьвяты горад праз Оўчыя вароты.

Там было ўжо шмат людзей: жабракі, хворыя, ўсе пакрыўджаныя лёсам і людзямі. Яго, відаць, чакалі. Тут былі і кніжнікі і фарысеі.

Дзеці нясьмела, асьцярожна зьбліжаліся да Яго: ім хацелася даткнуцца хаця-ж-бы да полаў Яго адзежы. Яны бачылі, што гэта часам рабілі другія, дарослыя. Дзеля гэтага і самыя пастанавілі зрабіць таксама. Яны-ж яго так любілі!

Але некаторыя з Яго вучняў, заўважыўшы іх намер, праганялі іх.

Ен гэта пабачыў і сказаў: „Не адганяйце ад мяне дзяцей, — няхай яны прыходзяць“. І паглядзеў на іх Сваім нежным, любячым, поглядам.

Дзеці прыбліжыліся да Яго ўжо сьмялей.

І раптам, неспадзявана для сябе, тыя з дзяцей, якія былі спераду другіх, адчулі Яго бажэсьценныя рукі на сваіх галавах! І пачулі Яго словы: „Не адганяйце ад Мяне дзяцей, — не перашка-

джайце ім прыхадзіць да мяне: бо да іх і да падобных ім належыць Царства Божае.

Вялікі Божа! Што адчулі тады ў сабе дзеці!

Здавалася, нейкая, невядомая Бажэсьцвенная сіла, нейкае бязьмернае шчасьце напоўніла іх душы, напоўніла ўсю істоту іх.

І з тае пары прайшло многа гадоў, —дзеці сталі ўжо старымі, а ўсё бачылі Яго, усё чулі Яго Бажэсьцвенны голас...

Так, Ен заўсёды быў з імі!

А. К.

## На Новы Год.

З Новым Годам, шчасьцем новым
Дай-жа, Божа, гэты год,
Каб успомніў шчырым словам
Працавіты ўвесь народ!
Каб больш сьлезы ня ліліся,
Каб ня падаў чалавек,
Каб астрогі запярліся
Ад людзей на вечны век.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Каб пабольшала нам поля,
Каб разросься вузкі луг,
Каб пяялі песьні волі,
Дзяржучы жалезны плуг.
Дай Бог шчасьця вам і долю,
Усім, хто сьлёзы праліваў,
Хто у бедным, родным полі
Зерня праўды засяваў.

Я. Колас.



# Берасьцейская царкоўная вунія 1596 г.

(Канец)

Калі паднялося пытаньне аб вуніі, то такое палажэньне праваслаўнай царквы давала як-бы грунт для вуніі. Вунія дакляравала даць вышэйшаму духавенству сэнатарскія крэслы, апроч таго, яна патрэбавала скасаваньня кантролю сьвецкіх установаў і асобаў над царквою. І тым і другім вунія прыцягвала да сябе прадстаўнікоў вышэйшага духавенства царквы. У 1591 годзе некаторыя з праваслаўных япіскапаў падалі каралю Жыгімонту заяву аб прызнаньні імі галавенства папы над праваслаўнымі пад умовою, каб былі ў праваслаўнай царкве пакінуты ўсходнія абрады. Галоўнымі дзеячамі гэтай справы былі — Луцкі япіскап Кірыла Цярлецкі і Уладзімерскі япіскап Іпат Пацей. Кіеўскі мітрапаліт Міхал Рагоза таксама згаджаўся на вунію. Трэба было правесьці гэтую справу праз Рым. Улетку 1595 году К. Цярлецкі і І. Пацей, падпісаўшы разам з другімі япіскапамі акт аб вуніі, паехалі з гэтым актам, як прадстаўнікі, да Рыму. Рымскі папа, Клімэнт VIII, з радасьцю прыняў пасланцоў, даў сваё багаслаўленьне і згоду. На славу падзеі быў выбіты асобны мэдаль з надпісам—„на злучэньне рускіх“ (Ruthenis Receptis). Жыгімонт III, з свайго боку, выдаў дэкрэт аб злучэньні цэркваў. Даведаўшыся, што шмат праваслаўных вельмі абураны справай, зробленай без агульнай згоды Цярлецкім і Пацеем, кароль узяў пад сваю абарону, як іх, так і другіх япіскапаў, каторыя падпісалі акт вуніі. Не хапала толькі саборнага зацьвярджэньня. Спагадчыкі вуніі думалі абыйсьціся і без сабору, але праціўнікі вуніі, жадаючы зруйнаваць акт вуніі, зроблены без агульнай пастановы, трэбавалі, каб быў склікаены сабор.

Сабор быў скліканы ў Берасьці ў кастрычніку 1596 году. На сабор зьявіліся прадстаўнікі двох усходніх патры-

ярхаў, царградзкага і александрыйскага. Як і трэба было спадзявацца, адразу вынік разлад паміж двама кірункамі. Фактычна адбыліся два саборы. Адзін сабор складалі абаронцы вуніі пад старшынством львоўскага лацінскага арцыбіскупа Сулікоўскага. Другі сабор складалі праваслаўныя, нязгодныя з вуніяй, пад старшынством львоўскага ўсходняга япіскапа, Гедэона Балабана, з прысутнасьцю прадстаўнікоў ад усходніх патрыярхаў. Вуніяцкі сабор зрабіў паседжаньне ў берасьцейскай саборнай царкве, а праваслаўны ў прыватным будынку, бо Пацей, япіскап Уладзімерскі, да япархіі якога належала Берасьце, даў загад зачыніць для праціўнікаў вуніі ўсе цэрквы гораду. Прадстаўнікі сабораў некалькі раз заклікалі на свае паседжаньні сваіх супернікаў, але нічога з гэтага ня выйшла. Кожны з сабораў засядаў асобна і астаўся пры сваёй уласнай думцы аб вуніі. Вуніяты абвесьцілі анатэму і лішылі сану япіскапаў, што не згаджаліся на вунію, а праваслаўныя зрабілі тое самае ў адносінах да сваіх праціўнікаў. Ня гледзячы на такі канец сабору, польскі ўрад і рымскі папа пачалі афіцыяльна лічыць вунію адбытым фактам. На праваслаўную веру ўрад глядзеў, як на сэкту; „схізму". У праваслаўных пачалі адбіраць цэрквы і манастыры, забралі Зофійскую саборную царкву ў Кіеве. Па гарадох было забаронена адпраўляць праваслаўнае набажэнства.

Праваслаўныя ўдзержвалі за сабою Кіева-Пячэрскі манастыр і мітрапалічую катэдру ў Кіеве. У далейшыя часы з ліку кіеўскіх мітрапалітаў сваею чыннасьцю праславіўся энэргічны і з вялікаю адукацыяй чалавек, Пятро Магіла, яшчэ ў бытнасьць сваю архімандрытам Кіеўскай Лаўры ён заснаваў пры ёй ранай духоўную школу, каторую потым перарабіў у вышэйшую школу, акадэмію. Сюды ён выпісаў з усходу добрых прафэсароў і зьбіраў вакол акадэміі і ў акадэмію моладзь, каторая шукала прасьветы. Гэтая школа доўга была цэнтрам прасьветы, як для заходніх рускіх, так і для Масквы.

Акт Берасьцейскай царкоўнай вуніі мае, ня столькі царкоўнае, колькі палітычнае і нацыянальнае значэньне. Гэтая вунія ёсьць працяг вуніі Люблінскай. Справа была ня толькі ў тым, што праваслаўны кідаў веру бацькоў сваіх і рабіўся каталіком і вуніятам, а і ў тым, што ён прымаў культурны і нацыянальны ўплыў Польшчы, пераставаў быць беларусам. Беларускі шляхціц-каталік праз нейкі час рабіўся ўжо польскім шляхціцам і парываў зьвязак з роднай нацыяй. Ен лічыў ужо сябе чалавекам нацыі з вышэйшай культурай і з пагардай глядзеў на мужыка, каторы дзяржаўся „схізматычнай" веры. Зьявіліся на Беларусі дзьве веры: адна — каталіцка - вуніяцкая, панская, другая—праваслаўная, мужыцкая. Трэба ўсё-ж такі адзначыць, што вуніяты ня доўга панавалі, бо сама па сабе вунія ня была патрэбна ні езуітам, ні Польшчы. Калі выявілася, што вунія, як мост, не пераводзіць пад польска-каталіцкі ўплыў шырокіх масаў, яе перасталі лічыць патрэбнаю і прывілегіраванаю.

Вунія, такім спосабам, прынясла на Беларусь разлад і барацьбу. Яна, як і Люблінская вунія, касавала незалежнасьць Беларусі і павінна была выклікаць у Беларусі проці сябе пратэст. Гэтым пратэстам, барацьбою за палітычную, нацыянальна-культурную і рэлігійную волю запоўнена гісторыя адносінаў беларускага і польскага народаў.






# Татарскі пастой.

У чыстым полі бяроза стаяла,
На бярозе зязюля кувала
Годзе, годзе, зязюля, куваці,
Бо ўжо едуць татары бярозу рубаці —

Ты, бяроза, хілява—бялява,
Чаму ў полі ты не вясёла,
Чаму, бяроза суха, не зялёна!
— Як-жа мне зялёнай быці!

Пада мною татары стаялі,
Татары стаялі, карэнь выбівалі,
Крынічнай вады дабывалі,
Сваіх коні напавалі.

---

# Прычыны падзелу царквы і варункі магчымага злучэньня.

Адзіная Сьвятая Апостальская Царква ад пачатку існаваньня больш 1000 гадоў на Усходзе і Захадзе ўжывала для таінства прычасьця квашаны хлеб, што прызнаюць і заходнія багасловы. Пачынаючы ад XI стагодзьдзя Рымская царква пачала ўжываць для таінства Бажэсьцьвеннай літургіі апрэснакі.

Адзіная Сьвятая Апостальская Царква як на Усходзе так і на Захадзе прыняла і згодна вучыла, што Сьв. Дары асьвяшчаюцца пасьля малітвы заліку Сьв. Духа праз сьвяшчэньніцкае благаслаўленьне, як сьведчаць аб гэтым і старажытныя рымскія чынапасьледаваньні.

З часам Рымская Царква дапусьціла і тут ухіленьне, самачынна пачаўшы вучыць, што Сьв. Дары асьвяшчаюцца пры словах: „прыміце ядзіце: сіе есьць цела мае, пійце от нея всі: сія есьць кровь Мая“.

Адзіная Сьв. Апостальская Царква, згодна з загадам Госпада: „пійце от нея всі“ падавала прычасьце ўсім з святой чашы.

Пачынаючы ад IX веку і пазьней Рымская Царква і тут дапусьціла ўхіленьне ад запаведзі Спасіцеля, агульнае практыкі ўсяе Царквы і выразнае забароны многіх старажытных рымскіх япіскапаў: яна пазбавіла права міран прычашчацца Крыві Хрыстовай, захаваўшы гэтае права толькі духоўным асобам.

Адзіная Сьв. Апостальская Царква згодна з сьв. Пісаньнем і Апостальскім Прэданьнем прызывае міласьць Божую і моліцца аб адпушчэньні грахоў нябошчыкаў, адышоўшых да вечнага жыцьця.

Рымская Царква, пачынаючы ад XII стагодзьдзя ўвяла ў сябе шмат новых, раней няведамых вучэньняў: аб вагне чысца, аб астачы заслугаў сьвятых, раздачы іх грэшным і г. д.

Адзіная Сьв. Апостальская Царква вучыла, як цяпер прызнае і вучыць прав. Царква аб надзвычайным, непарочным нараджэньні толькі Сына Божага Ісуса Хрыста. Рымская ж Царква на рымскім саборы яшчэ так нядаўна ў 1854 годзе, прыняла новы догмат аб надзвычайным нараджэньні Дзевы Марыі, догмат няведамы Царкве да яе падзелу, які пасьля яго прыняцьця ня раз выклікаў вялікую спрэчку збоку на-

ват каталіцкіх багасловаў.

Аднак-жа вышэйшае кіраўніцтва Рымскаю Царквою ў асобе рымскіх папаў практычна не надавала і не надае гэтым, прынятым рымскаю царквою догматам і новаўвядзеньням нязгодным з вучэньнем Усяе Хрысціянскае Царквы да яе падзелу, тае вагі, якую яно надае вучэньню аб главенсьцьве рымскіх папаў над Хрысьціянскаю Царквою.

Творы сьвят. айцоў Царквы і пастановы краёвых і Сусьветных Сабораў першых дзевяцёх яе вякоў аднолькава згодна сьведчаць нам аб тым, што на рымскага япіскапа ніколі не глядзелі ў Царкве як на вышэйшую ўладу і непагрошымага главу, бо кожны япіскап ёсьць глава і прадстаўнік свае краёвае Царквы, падпарадкаваны толькі саборным пастановам Сусьветнае Царквы; толькі саборныя пастановы Сусьветнае Царквы лічацца правідловымі і непагрошымымі.

Гісторыя Хрысьціянскае Царквы сьведчыць аб тым, што рымскі Япіскап ня быў выняткам з гэтага правіла. Адзіны вечны і несьмяротны. Начальнік і Глава Царквы—Хрыстос. „Той ёсьць Глава целу Царквы". (Кол. 1,18). Ен сказаў Сваім вучням і апосталам пры ўзьнясеньні свэім на неба: „Вось Я з вамі ёсьць заўсёды да канца веку".

(Матв. 28, 20).

Апостал Пётра, якога рымскія папы, апіраючыся на „Ісэўдаклімэнціны", выстаўляюць будаўнічым рымскае царквы і першым яе япіскапам, у Дзеях Апостальскіх прадстаўляецца толькі браўшым удзел на Апостальскім Ерусалімскім Саборы ў 51 годзе нароўні з іншымі апосталамі і старшынёю Сабора быў ня ён, а апостал Якаў, якім была і ўнесена, прынятая Саборам, пастанова, звальняючая Хрысьціян, з іудэяў ад выкананьня над імі абрэзаньня.

— Калі пасьля пропаведзі дзіякана Піліпа ў Самарыі зьявіліся Хрысьціяне, дык для зьвядзеньня на іх дараў сьв. Духа і выкананьня таінства Мірапамазаньня былі пасланы з Ерусаліма апосталы Пётра і Іаан, што служыць доказам таго, што калі-б апостал Пётра быў старэйшым над іншымі апосталамі—дык ён, кіруючы іншымі, пасылаў-бы іх, а ня сам быў-бы пасланы.

Больш таго, апостал Пётра адкрыта, пры ўсіх укараецца апосталам Паўлам за тое, што тайна ад верных еў разам з паганымі (гал. 2, 11—15), што было-бы немагчымым, каб ён быў старшым над апосталамі.

Галоўнаю падставаю для вучэньня аб сваім главенсьцьве рымскія папы лічаць наступныя славы Спасіцеля: „Ты есі Петр, і на сем камені сазіжду царковь мою". (Мат. 16, 18). Але гэтыя словы Спасіцеля, як гэта бязумоўна ведама і рымскім папам, у першыя стагодзьдзі існаваньня Хрысьціянскае Царквы ўсе сьвятыя айцы, у тым ліку і рымскія папы, і вучыцялі Царквы, тлумачылі ў тым сэнсе, што под каменем разумелі не самога Пётру, а яго веру, як веру і іншых апосталаў, а падставаю — каменем,— на і якім пабудавана Царква, лічылі самога Спасіцеля.

Сьв. апостал Павал лічыць самога Спасіцеля падставаю (I кор. 3, 10—11) і краеугольным каменем (Ефес. 2, 19—20) Царквы.

Калі-жа такое богаўдахнавеннае апостальскае вучэньне аб падставе і главе Царквы, дык зусім зразумела, што і сьв. айцы моцна трымаўшыяся апостальскіх прэданьняў, не маглі вучыць аб главенсьцьве апостала Пётры, а тым балей рымскіх папаў і даваць якое-небудзь праціўнае праўдзе і ўсяму Эвангельлю тлумачэньне вышэйпададзенаму мейсцу; таксама не маглі самы выдумаць дзіўнага догмату аб асаблівых вышэйшых правах рымскага япіскапа-папы, быццам наступніка апостала Пётры, тым балей, што апостал Пётра зусім ня быў закладчыкам Рымскае Царквы; гісторыя нічога ня ведае аб яго дзеяльнасьці ў Рыме. Рымская Царква была заложана апосталам Паўлам праз Яго вучняў. Аб дзеяльнасьці апостала Паўла ў Рыме ёсьць шмат вестак як у Дзеях Апостальскіх, так і ў пасланьнях.

(Працяг будзе).

# Старое замчышча.

Старыя акопы зьнямеўшы сьпяць у чорнай цьме.

Каб ня мова людзкая, дык ніхто-б і ня ведаў, што калісьці тут слаўнае замчышча князёў Саламерацкіх было, жыцьцё кіпела. Грымелі гарматы, курыўся дым ад пораху, і лілася чалавецкая кроў. А ў сьвяты вялікія—хмель-віно ў чарах пенілася, ігралі гусьлі-самагуды, стогн стаяў ад гоману людзкога і многа чаго дзеялася, што ўжо навекі пахавана для пазнейшых часоў.

А цяклі часы, упадалі на сілу магутныя і нечакана ўзнасіліся ўгару няпрыкметныя, умíралі князі слаўныя, выраджаўся князеўскі род. Памёр маўклівы сівавусы Мсьціслаў, і асталася на ўвесь род адна наступніца — дачушка яго дрыжоная, ненадзейная князеўна Ганначка.

Прыгожа яна, як краска Божая, а розум дзявоцкі і сэрца мела дзявоцкае...

Моліць Бога стары мніх Грыгор: „Удзяржы ўладу князёў маіх, прасьвятлі вочы князеўны мае на карысьць усіх радзімічаў...“.

І гаворыць мніх Грыгоры прыгожай Ганне князеўне: „Ох, ты маё дзіцянё, Божая служэбніца, а падданых сваіх заступніца, слаўная ты наступніца слаўных князёў Саламерацкіх, не дапускай ты к сабе паніча польскага, княжыча Уладыслава Воебойскага, ня слухай ты салодка-атрутных прамоў спранджыстых вучыцялёў яго, беражы пасад прадзедаўскі, і веру сваю сьвятую беражы.

Слухае мніха, ня гледзячы на яго, князеўна маладая.

І без адказу ішоў ён, стары, маліцца Богу ў ціхай царкве, пабудаванай яшчэ старым князем Лукгвенам.

А князеўна Ганна часьцей а часьцей да сябе Уладыслава, княжыча Воебойскага дапускаець, часьцей а часьцей яму ў вочы маладыя пазіраець...

Ня цьвёрда стаіць пасад князёў Саламерацкіх, ходзяць чуткі—маскоўскі ўладар сваю рацъ на Беларусь паслаў над старыя муры старога Саламерацка.

— О, Божа наш! О, князеўна мая —стогнець мніх Грыгор. Няма ўжо яму на што спадзявацца.

Дарма! Усё канец маець...

Сыплецца цэгла і пыл ідзець над сьценамі замчышча, гудам-гудзіць пад кулямі маскоўскімі Замковая Гара, заслаў дым усё поле ваеннае, равуць валы, вайсковыя, іржуць коні літоўскія, гудзяць званы хаўтурныя, ліецца кроў..

А ў падземным ходзе-лазе, з-пад родных муроў-скляпоў, у Цёмны-Лес нясуць княжну Ганну вусатыя, у контушах, дружыньнікі княжыча Уладыслава. Пакідаець бацькаўскае гняздо астатняя галінка з вялікага радаводнага дрэва Саламерацкіх князёў.

Неўзабаве. Вось ужо чутны плескат і гоман ручая сьцюдзёнага, вось і дуб векавы, а каля яго ход-лаз падземны на зямлю выходзіць. Як самлела княжна Ганна ў Замчышчы, так і цяпер няпрытомна яшчэ Але патроху-паціху расплюшчыла вочы дзявоцкія, памаленьку, са страхам, усё ўцеміла.

— Гэ-гэй! Стойце, стойце, пажджэце, ляхі!... чутно—задыхаўшыся, бяжыць нехта ззаду. Аж гэта мніх Грыгор. Бяжыць угрунь, вочы гарацъ, белы сам як сьмерць, у руцэ сьвяты крыж дзяржыць.

— Ці . ці ня... ці ня ўнучку слаўнага Лукгвеня, князя нашага, у стане ляхаўскім бачу я? Ці то праўда, ці здаецца мне, што заранье так князеўна Ганна Саламерацкая з роднага кута ў чужу-далёкую старонку ляціць?

— Маўчы, чарнец! — прастагнала князеўна.

— Ня можна маўчаці мне, бо не маўчаў я пад громы гармат і сьвісты куль на маскоўскіх і польскіх палёх з князем Лукгвенем і сынам яго Мсьціславам; ня можна мне маўчаць і перад іхнім дзіцянём.

— Куды бяжыш, князеўна? Яшчэ моцны муры Саламерацкія, не паламаны паркан замковы, яшчэ ёсьць гарбузы і арэшкі на маскоўцаў у скляпох нашых і ня гнуцца яшчэ нашы людзі,

князеўна! Многа скарбаў дзядоўскіх захована ў нас, ня мала золата і каменьня драгацэннага ў сьвятынях нашых, – адкупімся ад Маскоўшчыны, а не пабяжым шукаць помачы туды, куды дзяды нашы ня бегалі і нам забаранілі...

— Манах! Маўчы! Уладыслаў мой любы абароніць спадчыну бацькоў маіх..

— Абароніць,. Князеўна, князеўна! Так абароніць, што парушацца косьці князёў нашых у трунах і попел іх разьляціцца. Ня хочаць Польшча Беларусь Літву сястрой роўнай лічыць, дык ня будзець ні Літвы ні Польшчы, а будзе магутная бесканечная Маскоўшчына. Гора нам!

Не бяжы, князеўна! Адкупіся пакуль што ад маскоўскіх ваявод, а там што Бог сьвяты дасьць А пакінеш Саламерацк цяпер ня будзе ўжо, ня будзе нашага незалежнага Саламерацка...

— Не... хлопча, гукні дружыну, вядзеце коні. — Ідзі, Грыгор.

Страшны стаўся мніх сівы. Высока ўзьняў сьвяты крыж, падняў рукі і на калені зваліўся. Балюча, паглядзеў ў сьлед князеўне Ганне і на неба зірнуў!

— Божа наш! крыкнуў ён, — Судзі нас, судзі мяне... Канец нам. Наша князеўна пакінула нас, сплуталася з Польшчаю і Маскве аддала. Вунь склычыліся ў бягні валасы яе, дык няхай-жа расклычуць іх. Няхай расплутаваець вас, аж пакуль і мы з Масквою ды Польшчаю не расплутаемся.

Задрыжэла зямля, полымя шуганула з усіх бакоў, пад грукат гармат і стогны байцоў шухнула ўсё аж на мілю кругом у зямлю на-скрозьдоньне.

**М. Гарэцкі.**

# Задача Царквы.

...Царква павінна ўзяць у свае рукі кіраўніцтва людзкім розумам, вярнуцца да таго духа свабоды, які ўнёс у мір Спасіцель.

Дух ёсьць рух, жыцьцё свабоды, калі царква будзеісьці наперакор руху, жыцьцю і свабодзе, дык яна абурыць на сябе дух часу, дух міра, яна застыне як скала, мёртва і холадна ўздымаючаяся над зямлёй, вярхніна якой пакрыта льдом і сьнегам, не паддаючымся сонечным праменьням.

На той нярухомай скале жыве Дух Божы; Ен вее над зямлёю ветрам, абчышчаючым паветра, разьлівае пах з красак, льлецца ўніз магутным патокам, Ен усюды там, дзе жыцьцё і рух.

Але галоўным чынам Ен у б'ючымся чалавечым сэрцы, у імкнучымся ўперад чалавецкім розуме, тонкая недатыкальная субстанцыя якога зноў-такі можа быць дасягнена і кіравана толькі Духам.

І Царква не павінна ўзьбірацца на мёртвую і недасягальную скалу, яна павінна сабе падпарадкаваць жыцьцё і дух пары ўсяго міра дзеля таго, каб іх пашыраць і абчышчаць, каб кіраваць іх прагрэсам і рухам. Ні якая, самая вялікая ўлада нядольна замкнуць жыцьцё і дух міра ў мёртвыя формы.

І калі вышэйшыя кіраўнікі рэлігійна-царкоўнага жыцьця пойдуць уперадзе духоўных імкненьняў грамадзянства, дык усе ворагі царквы змушаны будуць пайсьці за імі, і абраз крыжа запраўды пераможа дух ілжы і цемры — духам праўды і сьвета, як архангел перамог князя цемры астрыём сваяго вогнянага мяча.

Тады Царква (на Саборных началах) ператварыцца ў жывы арганізм, у запраўднае Цела Хрыста, з усіх артэрыяў якога паплыве жыцьцё да сэрца (Вышэйшае Духоўнае Улады).

(Крыж і меч—Г. Самарава).

На жаль, нашай Вышэйшай Духоўнай Уладзе, якая шчыра імкнецца да такога саборнага ладу ў нашым царкоўным жыцьці; ставяцца перашкоды як з верху так часткова і знізу.

# Ян і Маці.

Ты стамілася, змарняла, сьлёз праліла рэчку.
Што-ж, пастаў прад абразамі, запаліўшы, сьвечку:
Мо паможа Яну гэты сьвет і пацер словы...
Асьвяціла сьвечка з воску хлопца твар васковы.
Тае воск і ўніз ціхутка капелькі сьцякаюць,
А ў вачох збалелыя Яна сьлёзы праступаюць.
Сьвечка сьвеціць, сьвечка зьзяе, сьвечка дагарае,
І ў панурай, цеснай хаце хлопец памірае.
Ой, ня век-жа сьвечцы тонкай зіхацэць гарэці,
Дагарыць яна і зьнікне, як і ўсё на сьвеце.

**М. Багдановіч.**

---

# Нашыя абаронцы.

„Беларускаю Зарніцаю" атрымана шэраг пісьмаў з запытаньнямі, ў якіх адносінах знаходзіцца „Б. Зарніца" з „Беларускаю Хрысьціянскаю дэмакратыяй", ці салідарна яна з Б. Х. Д., як „Бел. Зарніца" рэагуе на забарону Віленскім Каталіцкім Архіяпіскапам Ялбжыкоўскім гэтае партыі і г. д.

У адказ на гэтыя пытаньні „Бел. Зарніца" лічыць патрэбным паясьніць наступнае.

Усякая шчырая праца на грунце нацыянальные культурна-асьветным і гаспадарчым павінна заслугоўваць пашаны з баку беларускага грамадзянства, што датычыць палітычнае працы Б. Х. Д. і наагул, іншых палітычных партыяў, дык „Беларуская Зарніца" як орган апалітычны, царкоўна-грамадзкі, ня мае на мэце хваліць альбо ганіць палітычную працу і кірунак тае ці іншае партыі.

Іншае пытаньне — справа рэлігійная. Перад усім трэба адзначыць, што „Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя", хаця і прапушчае ў сваім назове „Каталіцкая", але ёсьць партыя шчыра каталіцкая. Будучы шчыра каталіцкай з значным нахілам да вуніі, яна выстаўляе сябе прадстаўніцаю і апекункаю рэлігійных патрэбаў праваслаўных беларусоў: ня толькі піша ў сваім партыйным органе „Крыніцы" аб гэтым але выносіць нават пастановы на сваіх зьездах, пасылае мэмарыялы да праваслаўных іярархаў з вымаганьнем між-іншым ужываньня беларускае мовы ў царкве **як багаслужэбнай** і г. д.

Якія **праваслаўныя** беларусы патрабуюць гэтага ведама хіба толькі Б. Х. Д.

Меўшыя нейкую сутычнасьць з Б. Х. Д. сучасны сэнатар В. Багдановіч і б. сэнатар Назарэўскі прасілі катэгарычна пратэставаць ў б. „Зарніцы" процiў гэтага.

Не належыць да Б Хр. Д. і праваслаўны сэнатар Рагуля. Іншых сьвядомых праваслаўных беларусоў, якія-б належалі да выразна каталіцкае партыі мы ня ведаемы.

Пішучы гэта „Бел. Зарніца" ня мае на мэце вясьці змаганьне з Б. Х. Д. ня толькі на грунце нацыянальным, культурным і эканамічным, але і на рэлігійным грунце жадае для агульнае карысьці народа згоднае працы, але гэтая згода як раз будзе дасягацца лады, калі Б. Хр. Д. ня будзе ўмешвацца ў тое балючае, што нас разьдзяляе.

Што датычыць адносінаў Віленскага Кат Архіяпіскапа Ялбжыкоўскага да Б. Хр. Д., дык у справе нацыянальнага ўціску гэтае партыі ўсе шчырыя беларусы зразумела на баку Б. Х. Д.

Умяшаньне-ж у справу „антыхрысьціянства“ якое нібы знаходзіць Арх. Ялбжыкоўскі „Б. З.“ лічыць для сябе не тактоўным: гэта ўнутраная рэлігійная справа вышэйшага прадстаўніка Каталіцкае Царквы і каталіцкае партыі.

Ня гледзячы на ствары ўшыяся адносіны паміж каталіцкай Б. Х. Д. і Арх. Ялбжыкоўскім справядлівасьць вымагае адзначыць адну найбалей яскравую рысу яго як Архіпастыра, гэта калі ў 1927 і ў пачатку 1928 г. было заарыштавана і пасаджана ў вастрог на Лукішкі каля двох дзясяткаў каталіцкіх ксяндзоў ліцьвінаў,—дык Арх. Ялбжыкоўскі дабіўся перад адміністрацыйнімі і судовымі ўладамі іх звальненьня: адных узяў на парукі, за другіх унёс каўцыю, прыяжджаў да арыштаваных у вастрог і г. д. Такаю сваёю дзеяльнасьцю выявіў запраўды воблік хрысьціяніна.

Сако.

Чытайце і пашырайце

„Беларускую Зарніцу“

# Словы заслугоуваючыя увагі.

Эгаізм — гэта хвароба, гэта катар душы,—хто хварэе ім, той ужо ня чуе пяяньня птушак, ня бачыць блеску сонца, ня бачыць вясны...

Даволі таго, каб толькі крышку даткнуцца да гэтае, балячкі, каб сьціснуўся хваравіта ўвесь арганізм.

Чэхаў.

Натоўп—заўсёды натоўп. Ен кланяецца толькі посьпеху і сьпяшаецца выявіць адвагу асла, калі памірае леў.

---

Прыгожым можа быць толькі тое, што адрожніваецца не аднэй вонкавай формай, але і ўнутраным зьместам. Прыгожае заўсёды маральна. Немаральнае ня можа быць прыгожым, як мана і скажэньне здаровай чалавечай натуры.

Шэллер-Міхайлаў.

Прадчуваньні!.. Прадчуваньні! Будзьце вы праклятыя, бо вы ў сто разоў цяжэйшыя самога няшчасьця.

З няшчасьцем магчыма барацьба! Прадчуваньні-ж, як спрут, сьціскаюць душу, робяць яе слабою, бязвольнаю і трусьлівою.

Л. Андрэяў.

Калі дабро мае прычыну, яно ўжо не дабро; калі яно мае вынік, нагароду,—яно таксама не дабро. Значыцца, дабро ў вонках сувязі прычын і вынікаў.

---

Розум выкрыў барацьбу за існаваньне і закон, патрабуючы таго, каб душыць усіх, перашкаджаючых задаволеньню нашых жаданьняў.

Гэта вынік розуму.

А любіць другіх ня мог выкрыць розум дзеля таго, што гэта неразумна.

---

Жыў добра, але думаў дрэнна.

---

Я знаю гэта сэрцам веру ў тое галоўнае, што адкрыла мне царква.

Л. Таўстой.

# Праэкт Статуту

## аб праўным становішчы польскае аўтакефальнае праваслаўнае царквы прыняты сьв. Сынодам 1 ліпня 1926 г. 26 лютага 1927 г.

Арт. 1.

Польская Аўтакефальная Праваслаўная Царква карыстаецца ў сваім унутраным жыцьці поўнай свабодай кіраваньня ў рамках агульна абавязкавага дзяржаўнага права, права кананічнага і сваяго „Статуту Падставовага Кананічнага Ладу Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы“, прынятага Сьв. Сынодам 13 красавіка, 5 чэрвеня і 1 сьнежня 1925 г.

Царква гэтая не залежыць ні ад якое ўлады ні зазначанае гэтым Статутам ці статутам арганізацыйным.

Мітрапаліт і япіскапы зносяцца свабодна і беспасярэдна ў справах рэлігіі і маральнасьці з падуладным духавенствам і вернымі.

Польская Аўтакефальная Праваслаўная Царква мае права ў рамках агульна-абавязкавага закону набываць, збываць і свабодна кіраваць рухомай і нерухомай маемасьцю.

Арт. 2.

Главой Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы згодна з 34 Апостольскім Правілам зьяўляецца Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы. Мітрапаліт зьўляецца прадстаўнікам Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы перад урадам Рэспублікі Польскай і кіраўнікам усіх Япіскапаў і ўсяго духавенства. Разам з Сьв. Сынодам, складаючымся з епархіяльных Япіскапаў, кіруе правамі Царквы згодна з правіламі арганізацыйнага статуту, абвяшчае пастановы Сьв. Сыноду і пасьвячае абраных Сьв. Сынодам япіскапаў. Мітрапаліт зьяўляецца прадстаўнікам Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы перад сусьветным Канстантынопальскім Патрыярхам і перад іншымі Праваслаўнымі Цэрквамі, з якімі зносіцца свабодна і безпасярэдна ў справах кананічных.

Арт. 3.

Перад пасьвячэньнем абранага Сьв. Сынодам япіскапа, Мітрапаліт мусіць даведацца ў Міністра Вызнаньняў і Асьветы, што Урад Рэспублікі Польскай нічога проціў ня мае з палітычнага боку.

Арт. 4.

Абіраюць і пасьвячаюць Мітрапаліта ўсе япіскапы.

У выпадку свабоднага месца Мітрапаліта тымчасовае кіраўніцтва Мітраполіяй пераходзіць да сталага заступніка Мітрапаліта, калі ж няма гэтага дык найстаршага япіскапа.

Найпазьней па ўплыве аднаго месяцу ад часу асвабаджэньня пасады Мітрапаліта, кіраўнік мітраполіі абіраючы Сынод павінен абраць новага Главу Царквы. Што да кандыдатаў на становішча Мітрапаліта, Сынод праз кіраўніка Мітраполіі даведваецца ў Міністра Вызнаньняў і Асьветы, што Урад Рэспублікі Польскай нічога ня мае праціў з палітычнага боку.

Выбар асобы, кандыдатура якое ня была вышэй азначаным спосабам прадстаўлена Ураду, незаконны.

Арт. 5.

Мітрапаліт перад прыняцьцем кіраўніцтва ў прысутнасьці сяброў Сьв. Сыноду і Прэзыдэнта Рэспублікі Польскай складае прысягу, пасьля чаго атрымлівае ад іх дэкрэт аб прыняцьці кіраўніцтва.

Арт. 6.

Мітрапаліт можа вызначыць у паразуменьні з Сьв. Сынодам і за згодай Ураду сталага свайго Заступніка для кіраўніцтва Мітраполіяй на выпадак свае адсутнасьці ці хваробы.

Арт. 7.

Польская Праваслаўная Аўтакефальная Царква падзяляецца на япар-

кіі: 1) Валынскую, у межах Валынскага Ваяводзтва, 2) Палескую, у межах Палескага Ваяводзтва, 3) Віленскую, у межах Віленскага Ваяводзтва, 4) Горадзенскую, у межах Наваградзкага Ваяводзтва і паветаў Горадзенскага і Ваўкавыскага з Беластоцкага Ваяводзтва, 5) Варшаўскую, ахопліваючую рэшту тэрыторыі Рэспублікі Польскай.

Даходы япіскапскіх кафедраў і кафедры Мітрапалічай складаюцца з 180 га зямлі і пэнсіі азначанай у ўвазе А.

Зьмена межаў япархіі адбываецца па пастанове Сьв. Сыноду за згодай Ураду Рэспублікі Польскай.

Кіраўніцтва царкоўнымі справамі ў войску належыць Мітрапаліту, але ён пры жаданьні можа даручыць гэта асобнаму япіскапу.

Арт. 8.

Кіраўніцтва япархіямі належыць Епархіяльным япіскапам, на падмогу якім могуць быць дадзены вікарыі. Япіскап перад прыняцьцем кіраўніцтва, атрымлівае дэкрэт з назначэньнем ад Мітрапаліта і складае ў прысутнасьці Мітрапаліта і Міністра Вызнаньняў і Асьветы, ці яго дэлегата, прызягу, пасьля чаго атрымлівае яго дэкрэт аб прыняцьці кіраўніцтва.

Арт. 9.

Пры кожным япіскапе існуе кансісторыя, складаючыяся з чатырох сяброў сьвяшчэніцкага сану. Апрача помачы япіскапу ў кіраўніцтве япархіяй, кансісторыя выконвае пад старшынством япіскапа духоўны суд.

Сяброў кансісторыі на прапанову Епархіяльнага япіскапа вызначае Сьв. Сынод, пасьля сьцьвярджэньня Міністра Вызнаняў і Асьветы, што Урад з палітычнага боку нічога праціў гэтае асобы ня мае.

Сябры кансысторыі перад прыняцьцем кіраўніцтва складаюць перад япіскапамі ў прысутнасьці адпаведнага Ваяводы ці яго заступніка наступную прысягу:

„Абяцаю і прысягаю Усемагутнаму Богу перад сьв. Яго Эвангельлем, што на даручаным мне становішчы Сябра Праваслаўнае Кансісторыі ў . . . . . буду верным грамадзянінам Рэспублікі Польскай, што буду сумленна выконываць свае абавязкі згодна з кананамі Праваслаўнае Царквы, пастановамі Вышэйшае Духоўнае Улады Аўтакефальнае Царквы ў Польшчы і пастановамі Польскае Дзяржавы; пастараюсь быць справядлівым і бескарысным ва ўсіх канс сторскіх справах.

У сьцьвярджэньне мае прысягі цалую словы і крыж Спасіцеля маяго. Амін.

Арт. 10.

Пры Мітрапаліце Варшаўскім і ўсяе Польшчы існуе канцалярыя Мітрапалітальная і Сынадальная, а пры епархіяльных япіскапах канцалярыі кансістарскія.

Пэнсіі канцалярскіх урадоўцаў азначаны адпаведнай увагай.

Урадоўцаў канцалярыі Мітрапалітальнай і Сынадальнай, а таксама канцалярыяў кансістарскіх вызначае Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы, з захаваньнем пастановаў арт. 17 уставу аб службе цывільнай.

Мітрапаліт можа дазволіць Епархіяльным япіскапам вызначаць урадоўцаў Кансістарскіх Канцэлярыяў пяцёх ніжэйшых ступеняў.

Урадоўцы гэтыя падпарадкуюцца выключна Япіскапам і Мітрапаліту, карыстаюцца з правоў для ўрадоўцаў дзяржаўных, акрэсьленых у статуце аб службе цывільнай і статуце аб эмэрытуры для ўрадоўцаў дзяржаўных.

Арт. 11.

Япархіі падзяляюцца на благачыньні, а апошнія на прыходы. На чале благачыньняў стаяць благачынныя, прыходамі-ж кіруюць настаяцелі, для дапамогі якім і для кіраўніцтва філяльнымі цэрквамі могуць быць дадзены вікарыі.

Благачынных, настаяцеляў і вікарыяу вызначаюць епархіяльныя япіскапы. Аб назначаным кандыдаце япіскап пісьменна паведамляе Ваяводу, які ў працягу месяцу ад часу атрыманьня паведамленьня, можа даць знаць Япіскапу, што ён на гэтую кандыдатуру не згаджаецца з палітычных поглядаў.

Калі-ж у працягу месяцу Ваявода не прадставіць япіскапу ні якіх закі-

даў, апошні вызначае дадзенага кандыдата на назначанае мейсца. Аб вызначэньні абвяшчаецца ў ваяводзкіх ведамасьцях.

У выпадку, калі япіскап не згаджаецца з закідамі Ваяводы, павінен прадставіць справу Міністру Вызнаньняў і Асьветы, апошні на працягу двух месяцаў ад часу атрыманьня паведамленьня япіскапа па нарадзе з Мітрапалітам мусіць паведаміць япіскапа аб сваёй згодзе ці нязгодзе. Неатрыманьне на працягу двух месяцаў паведамленьня ад Міністра лічыцца выразам згоды.

У выпадку нязгоды Міністра Вызнаньняў і Асьветы, япіскап вызначае на дадзенае мейсца іншага кандыдата з захаваньнем вышэй азначанае працэдуры.

Па звальненьні мейсца настаяцеля, япіскап можа тымчасова вызначыць выконваючага абавязкі настаяцеля, паведамляючы аб гэтым Ваяводу.

У выпадку, калі выконваючы абавязкі зьяўляецца аднача сна і кандыдатам на настаяцеля, а Ваявода прадставіць закіды проціў яго кандыдатуры, гэты кандыдат неадкладна мусіць быць заменены другім.

Тэрмін для выражэньня пратэсту адміністрацыйнае ўлады пачынаецца з дня наступнага пасьля здачы паведамленьня духоўнае ўлады на почту.

Калі апошні дзень тэрміну прыпадае на дзень сьвяточны, тэрмін канчаецца ў найбліжэйшы будні дзень.

Атт. 12.

Настаяцель першы раз прымаючы кіраўніцтва прыходам, складае перад епархіяльным япіскапам у прысутнасьці Ваяводы ці яго дэлегата прысягу.

Арт. 13.

Разьмежаваньне прыходу і філіі, а таксама мейсца жыцьця настаяцеляў, і вікарыяў адбываецца за пастановаю вышэйшае духоўнае ўлады і Міністра Вызнаньняў і Асьветы.

Да часу ўрэгуляваньня справы вядзеньня мэтрычных запісаў ва ўсёй Польшчы, настаяцелі прыходаў на тэрыторыі б. Царства Польскага выконваюць абавязкі кіраўнікоў гэтае справы, у іншых частках мітраполіі мэтрычныя кнігі вядуцца як і да гэтага часу. У паразуменьні з Ваяводай япіскап можа даручыць гэтую справу вікарыям, кіруючым філіяльнымі прыходамі.

Арт. 14.

Манастырамі кіруюць ігумены, ігумені пад загадам епархіяльнага япіскапа, за выняткам манастыра Пачаеўскага, беспасярэдным кіраўніком якога зьяўляецца Мітрапаліт.

Паступіць у манастыр могуць толькі асобы маючыя „obywatelstwo", вынятак становяць асобы знаходзячыяся ў манастыры ў часе ўвядзеньня ў жыцьцё гэтага статуту. Асобы маючыя абыватэльства, але адбыўшыя паслушніцтва ці пастрыжаныя за межамі могуць быць прыняты толькі з дазволу Міністэрства Вызнаньняў і Асьветы.

Аб асобе, вызначанай загадчыкам манастыра, япіскап мусіць паведаміць Ваяводу.

Утварэньне новых манастыроў, апрача існуючых у сучасную хвіліну, вымагае паразуменьня Мітрапаліта з Міністэрствам Вызнаньняў і Асьветы.

Арт. 15.

Праваслаўнае духавенства карыстаецца з наступных прывілеяў: 1) асобы духоўныя пры выкананьні сваіх абавязкаў будуць карыстацца асаблівай апекай нароўні з дзяржаўнымі ўрадоўцамі, 2) частка царкоўнае маемасьці будзе звольнена ад суловага заняцьця нароўні з маемасьцю ўрадоўцаў дзяржаўных, 3) асобы духоўныя будуць знольнены ад грамадзкіх абавязкаў нязгодных з іх становішчам як: прысяжных судзьдзяў, сяброў трыбуналу і г.д., 4) асобы духоўныя, пасьвячоныя перад абвяшчэньнем вайны, звальняюцца ад службы вайсковай за выняткам „pospolitego ruszenia". У гэтым апошнім выпадку будуць выконываць свае пастырскія абавязкі, або нясьці санітарную службу, 5) у выпадку, калі-б асоба духоўная была абвінавачана судом сьвецкім у праступленьні, зазначаным правамі карнымі Рэспублікі Польскай, суд мусіць неадкладна паведаміць епархіяльнага япіскапа аб дадзенай справе і

прыслаць яму акт абвінавачаньня, а таксама вырак судовы разам з яго матывамі. Япіскап ці яго дэлегат маюць права па скончаньні судовае справы пазнаёміцца з адпаведнымі актамі. У выпадку арышту асобы духоўнае, цывільная ўлада мусіць захоўвацца адпаведна яе чыну, б) асобы духоўныя будуць адбываць арэшт у памешканьнях асобных ад памешканьняў асобаў сьвецкіх, пакуль не пазбаўлены чыну адпаведным япіскапам. У выпадку пакараньня арэштам, будуць адбываць гэтую кару ў манастыры ў спэцыяльна для гэтага вызначаным памешканьні.

Арт. 16.

Калі асоба духоўная ці царкоўны служачы будзе абвінавачаны ў зладзействе споўненым з пабуджаньня ўласнае карысьці, адпаведная духоўная ўлада павінна звольніць яго ад выкананьня яго абавязкаў.

У выпадку пагражаючай спакою Дзяржавы дзеяльнасьці асобы духоўнае ці царкоўнага служачага Ваявода можа вымагаць ад епархіяльнага япіскапа прыняцьця адпаведных мераў і звальненьня дадзенае асобы ад выкананьня яе абавязкаў царкоўных. Япіскап можа на працягу 30-х дзён падаць пратэст Міністру Вызнаньняў і Асьветы, які ў паразуменьні з Мітрапалітам, па разглядзе справы дэлегатамі Міністра і Мітрапаліта, вырашыць яе аканчальна.

Спосаб вырашэньня справы акрэсьліць загад Міністра Вызнаньняў і Асьветы, выданы ў паразуменьні з Міністэрствм Унутраных Спраў і Мітрапалітам Варшаўскім і ўсяе Польшчы.

Адсутнасьць „obywatelstwa" у асобаў духоўных ня будзе прычынаю да звальненьня іх з займаных імі дагэтуль становішчаў.

Дзяржаўная ўлада мае права ўжыць прымусовыя сродкі для выкананьня загаду Мітрапаліта ці епархіяльнага япіскапа.

(Працяг будзе).

# Бюджэт Польшчы на 1929 год.

Рада Міністраў унясла ў Сойм бюджэт на 1929 год, які па асобым Міністэрствам у параўнаньні з 1928 годам выглядае так:

| | | 1929 год. | 1928 год |
|---|---|---|---|
| Міністэрства Замежных Спраў — — — | зл. | 55.000.000 | 52.000.000 |
| „ Унутраных „ — — — | | 233.000.000 | 218.000.000 |
| „ Вайсковых „ — — — | | 819.000.000 | 760.000.000 |
| „ Справядлівасьці — — — | | 116.000.000 | 108.000.000 |
| „ Асьветы і Рэлігіяў — — | | 401.000.000 | 399.000.000 |
| „ Прамыслу і Гандлю — — | | 52.000.000 | 48.000.000 |
| „ Працы і апекі — — — — | | 64.000.000 | 61.000.000 |
| „ Грамадзкай працы — — | | 146.000.000 | 136.000.000 |
| Дзяржаўныя даўгі і г. д. — — — — — | | 274.000.000 | 231.000.000 |
| Агульная сума расходаў па бюджэту 1929 году выносіць — — — — — | | 2.801.931.686 | — |

На 1929 год бюджэт прадбачыць наступныя даходы:

| | | |
|---|---|---|
| Адміністрацыйныя даходы г. зн. розныя падаткі — — — — — — — — | 1.730.000.000 | 1.600.000.000 |
| Даходы ад манаполіяў— — — — — — | 895.000.000 | 877.000.000 |
| „ ад дзяржаўных прадпрыемстваў | 182.000.000 | 180.000.000 |
| у тым ліку ад чыгунак — — — — | 79.000.000 | — |
| „ „ ад пошты — — — — | 20.000.000 | — |

# Загад Міністэрства Асьветы датычучы выкладаньня рэлігіі.

Міністэрства Асьветы выдала загад адносна выкладаньня рэлігіі вучням некаталіцкага вызнаньня ў сярэдніх і спэцыяльных школах.

У кожнай з гэтых школаў, калі лік вучняў якога-небудзь некаталіцкага вызнаньня (а значыць і праваслаўных), ня менш 12-цёх, павінна быць уведзена выкладаньне рэлігіі два разы ў тыдзень. Калі лік вучняў-некаталікоў — менш 12 цёх; — дык яны будуць злучацца ў гурткі разам з вучнямі другіх сярэдніх школаў. Калі лік іх вельмі значны, та яны будуць разьбівацца на гурткі па клясам і ўзросту.

У атэстатах аб сканчэньні сярэдніх і спэцыяльных школаў павінны быць адзнакі па рэлігіі. Калі ў якой-небудзь школе рэлігія не выкладаецца, та школьныя ўлады маюць права вымагаць ад бацькоў і выхаваўцаў вучняў адпаведнага пасьведчаньня аб навучаньні рэлігіі ў хаце.

# Грамадзяне радныя.

„Вучэньне — сьвятло, нявучэньне — цемра“ кажа народная прыказка, і даводзіць гэтую ўсім зразумелую праўду ня трэба. Але таксама ўсім добра ведама, што шырокія народныя масы ня могуць здабыць сабе асьветы без адпаведнае школы. Толькі школа і то школа ў роднай матчынай мове дае тыя кадры інтэлігенцыі, якія, зьвязаныя з сваім народам, вядуць яго да лепшай будучыні. Без інтэлігенцыі нельга ўявіць сабе нармальнага разьвіцьця нацыі. Без інтэлігенцыі нацыя гібее, чахне, асымілюецца і ўрэшце замірае.

І вось, чаму павадыры беларускага адраджэнскага руху ўва ўсе мамэнты і часы перадусім зьвярталі ўвагу на школы.

Школа ў роднай мове—гэта баявы дэвіз усіх чэсных ідэйных барацьбітоў за правы і долю беларускага народу ня толькі на культурным, але і на палітычным фроньце. Усім ведама, як цяжка жылося беларускаму народу пад прыгонам ды ня лепш было і ў час так званае волі. Здабыць для Беларуса асьвету, гэта было часта толькі лятуценьнем, бо царскі ўрад прылажыў усе высілкі, каб не дапусьціць беларускага мужыка да крыніцы сьвятла і веды.

Усім ведама таксама, з якімі вялізарнымі высілкамі беларускаму грамадзянству ў Заходняй Беларусі да апошніх дзён прыходзіцца ўтрымліваць свае культурна-асьветныя пляцоўкі. Усім ведама, якую няроўную барацьбу прышлося вясьці беларускім сярэднім школам, каб захаваць свае ідэолёгічнае і нацыянальнае аблічча.

Элемэнт, які вучыцца ў гімназіі — гэта пераважна дзеці сялян, а большасьць іх—незаможныя.

Прыймаючы пад увагу, што беларускі народ нароўні з іншымі грамадзянамі Польскае Дзяржавы плаціць падаткі і нясе іншыя павіннасьці казьне, ён лёгічна павінен карыстацца і аднолькавымі з іншымі грамадзянамі правамі, гэта знача: дзеці яго павінны-б мець шырока арганізаваную магчымасьць здабываць сабе навуку ў сваёй роднай школе на месцы. Абставіны, аднак, незалежныя ад нас, вытварылі такі стан, калі на цэлыя ваяводзтвы сёньня ў Польшчы прыпадае ледзь адна беларуская сярэдняя школа і то ня ўсюды поўнапраўная, у той час, як польскія ўрадовыя сярэднія школы істнуюць амаль у кожным павеце. Паводле польскай урадовай статыстыкі, павятовыя соймікі

Віленскага ваяводзтва ахвяравалі на асьвету ў 1927-28 годзе звыш паўтара міліёна злотых, якія, зразумела, пайшлі выключна на польскія школы.

Такі стан рэчаў трываць доўга ня можа, бо трудна, каб за свае грошы беларускае жыхарства ня мела сваёй нацыянальна-беларускай, належнай яму на падставе Польскае Конституцыі і Міжнародных Трактатаў, школы. Беларускі народ павінен заняць належнае яму месца сярод вольных народаў, і сучасны польскі ўрад мусіць урэшце зразумець і паправіць тыя крыўды, якія дагэтуль былі роблены беларускаму народу.

Вясной мінулага году абітур'енты беларускіх сярэдніх школаў былі дапушчаны да так званых матуральных экзаменаў пры сваёй-жа Віленскай гімназіі ў роднай мове, а 1 кастрычніка тая-ж Віленская Беларуская Гімназія атрымала правы ўрадовай сярэдняй школы, і гэтым адчыніліся для нашых дзяцей дзьверы ў вышэйшыя польскія школы. Але адна гімназія з правамі на паўтраця міліёнаў беларусаў пад Польшчай – гэта кропля ў моры: мы павінны дабіцца далейшых уступак ад польскіх уладаў, маючы на мэце стварэньне такіх варункаў, каб кожны Беларус мог у сябе на месцы вучыць сваё дзіця ў роднай беларускай школе.

Каб хутчэй настаў гэты мамэнт, нам трэба ўчыніць усе высылкі, каб узгадаваць найбольшы лік сваей інтэлігенцыі, каб мець кадры сьвядомых нацыянальна і не адарваных сацыяльна ад свайго народу працаўнікоў. Фабрыкаю-ж гэткіх кадраў зьяўляецца бязумоўна школа наагул, а Віленская Беларуская Гімназія, якая 24 сакавіка будзе ўрачыста абходзіць свой 10-гадовы юбілей, — асабліва. Дзеля гэтага Пэдагогічная Рада гімназіі зварочваецца да Вас, Грамадзяне, з заклікам памагчы сваёй роднай школе, памагчы сваім землякам. Вызначайце стыпэндыі на ўтрыманьне незаможных дзяцей сваей гміны ў інтэрнаце і гімназіі, вызначайце дапамогу і самой гімназіі на навуковыя прылады і бібліятэкі!

З свайго боку Пэдагогічная Рада зрабіла неабходныя захады перад уладаю, і ўжо віленскі і навагрудзкі Ваяводы прыраклі нам ня скрэсьліваць з гмінных і соймікавых бюджэтаў ані воднага граша, які будзе прызначаны на гімназію.

Пэдагогічная Рада перакананa, што гмінныя Радныя споўняць узложаны народам на іх абавязак і прыйдуць з дапамогамі сваей незаможнай моладзі, якая ў будучыні, верым, сплаціць свой доўг народу з працэнтамі.

Прымеце пад увагу пры гэтым, грамадзяне Радныя, што ўтрыманьне аднаго вучня ў інтэрнаце пры Віленскай Беларускай Гімназіі выносіць 50 злотых у месяц (500 злотых у год), плата-ж за навуку выносіць для вучняў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| I | клясы — — | 50 | зл. у год |
| II | „ — — | 70 | „ „ |
| III | „ — — | 90 | „ „ |
| IV | „ — — | 110 | „ „ |
| V | „ — — | 130 | „ „ |
| VI | „ — — | 160 | „ „ |
| VII | „ — — | 190 | „ „ |
| VIII | „ — — | 230 | „ „ |

Акром таго на падручнікі, сшыткі і іншыя прылады вучню неабходна мець у год ня менш 50—80 зл. і, такім чынам, поўная стыпэндыя для аднаго вучня выносіць у год, у залежнасьці ад клясы, ад 600 да 800 зл.

Няўжо-ж, грамадзяне Радныя, у міліёнавых самаўрадавых бюджэтах ня знойдзецца нейкіх пару тысяч злотых на тое, каб памагчы сваім дзецям? Памятайце, што толькі школа, забясьпечаная самім народам, будзе адпавядаць яго імкненьням і жаданьням! Толькі апека працоўнага люду можа даць здаровую працоўную, грамадзкую школу, ў росквіце якое і ляжыць залог культурнага і нацыянальнага разьвіцьця самога народу.

Вільня, 18—1 1929 г.

**Пэдагогічная Рада Віленскае Беларускае Гімназіі.**

# ХРОНІКА.

6/19 студзеня ў Вільні ўрачыста адбылося на Віліі асьвяшчэньне вады, у якім на чале з Архіяпіскам Хведосіям узяло ўдзел усё гарадзкое духавенства.

На працягу ўсяе падарожы працэсіі былі расстаўлены шпалерамі вайска. Грала два вайсковыя аркестры. Парадак падтрымоўвала паліцыя. Ня толькі на вуліцах, але нават і ў саборы падчас адпраўленьня службы было шмат каталікоў і жыдоў.

Вайскавым начальнікам падчас службы былі адведзяны мейсцы ў алтары, якіх на жаль не папярэдзілі, што ў алтар пры аружжы ня прынята ўваходзіць, і яны ў гэтым ня вінаваты, але сядзеньне некаторых з іх у алтары падчас літургіі пры аружжы выклікала вялікае зьдзіўленьне і саблазн з боку праваслаўнага грамадзянства, пытаючага, чаму гэта іншаверцы маюць такія прывілеі.

— —

Бацькаўскім камітэтам Віленскае Беларускае Гімназіі абабраны на пасаду Дырэктара Гімназіі грам. Р. Астроўскі, які ад пачатку 1928/29 школьн. году ня згаджаўся прыняць гэтую пасаду.

## Адказы рэдакцыі.

**Царкоўнаму Старасьце І. Н.**

Плаціць царкоўныя падаткі бязумоўна трэба. Можаце толькі дамагацца ад а. Благачыннага, каб сума падаткаў, якая падае на Вашае Благачыньне прызначалася на кожную царкву ня самым Благачынным, а на агульным Благачыньніцкім сабраньні. Такі спосаб дасьць магчымасьць больш правідлова высьвятліць стан, даходнасьць і патрэбы кожнае царквы, а значыць і больш правідлова вызначыць падаткі з тае, ці іншае царквы.

**Грамадзянам О. Л., Н. П. Е. Б.**

Мэтаю „Белар. Зарніцы“ зьяўляецца пашырэньне і паглыбленьне рэлігійнае і нацыянальнае сьвядомасьці праваслаўных беларусоў, - агульная-жа апінія нашых іерархаў у нашы пляны не ўваходзіць. Перад усім мы павінны больш жорстка адносіцца самы да сябе.



## ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: сьвяшч. А. КОЎШ. Друк. Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22

## Прымаецца падпіска

на царкоўна-народную, літэратурную і гаспадарчую

часопісь

# „БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА“

**Пачынаючы з 1 верасьня часопісь будзе выхадзіць 2 разы ў месяц.**

**„БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА“**

будзе асьвятляць жыцьцё Царквы і беларускага народу ў Польшчы і заграніцай і дбаць аб пашырэньні культуры, рэлігійнай і нацыянальнай сьвядомасьці сярод беларускага народу.

